Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

4 - 10 ліпеня 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

№27 (115)

Сёе-тое аб сродках перамяшчэння ў рэгіёне



2-я старонка.

**Юбілеі**

## Непаўторнасць творцы

*У пачатку кастрычніка ў Палацы мастацтва ў Мінску адкрыецца юбілейная выстаўка Кастуся Харашэвіча. Днямі мастак адзначыць 70-годдзе.*



Нарадзіўся ён на Купалле, 6 ліпеня, у вёсцы Літва на Маладзечаншчыне. Потым стаў і гараджанінам, скончыў мастацкае вучылішча. Пашчасціла Кастусю Харашэвічу, што жыццё сутыкнула яго з вядомымі дзеячамі беларускага адраджэння, з таленавітымі навукоўцамі, як яго настаўнік Барыс Кіт.

За ўдзел у патрыятычным руху (Саюз Беларускай Моладзі) напрыканцы вайны Кастусю Харашэвічу не далі скончыць інстытут ні ў Мінску, ні ў Вільні. Аднак сфарміраваны ў юнацтве жыццёвы светапогляд час толькі загартаваў.

Гэта прынцыповы чалавек са шчырым і адкрытым для людзей сэрцам. На кожную грамадска-палітычную падзею мае сваю асабістую думку. Уваходзіць у Дэмакратычнае аб'яднанне ветэранаў, у Аб'яднанне беларускіх мастакоў, якое мае арыентацыю на нацыянальную спадчыну. Яго допісы можна сустрэць на старонках нашага выдання, "Маладзечанскай газеты", рэспубліканскіх газет.

Многія работы мастака цяпер знаходзяцца ва ўласнасці беларускіх музеяў, у прыватных калекцыях. Нават у Беларускім музеі-бібліятэцы ў Лондане. Па-сапраўдным каларытныя, з сумным пачуццем ранімай і даверлівай чалавечай душы.

*Святлана САРОКА.*

"РГ" віншуе Кастуся Іванавіча з юбілеем, зычыць здароўя, бадзёрасці. І плённай працы.

**Лета: квітнее саломка. Макавая**

## Падставілі

*ВІЛЕЙКА. Увагу супрацоўнікаў пазаведамаснай аховы прыцягнулі два хлопцы, якія па начным горадзе цягнулі матацыкл.*

- Мусіць, крадзены, - падумалі міліцыянеры і вырашылі з імі пазнаёміцца.

З тэхнікай усё было ў парадку. Але вось фізічны стан дваццацігадовых мясцовых жыхароў выклікаў занепакоенасць. А таксама іх груз: 390 грамаў гатовай для ўжывання макавай саломкі і 330 грамаў сухой. Моладзь вярталася ад знаёмай, бацькі якой з'ехалі на дачу. Чатырохпакаёвую кватэру выкарыстоўвалі для атрымання наркотыкаў. Напрыканцы гаспадыні аддзячылі - увялі і ёй укол.

Са слоў спецыялістаў, больш пацерпіць дзяўчына. Ёй "свеціць" ад 3 да 10 гадоў пазбаўлення волі. А асноўныя дзеючыя асобы атрымаюць да 3 гадоў.

*Аддзел інфармацыі.*

**Стыхія**

## Пасля ўрагану

*ВАЛОЖЫН. Сітуацыя кантралюецца і выпраўляецца. 2,5 мільярда рублёў будзе пералічана ў раён на ліквідацыйныя работы. На момант падрыхтоўкі інфармацыі палова сумы паступіла.*

Адразу пасля стыхіі апаратыўныя групы вызначылі страты. Акрамя жылых дамоў, вытворчых памяшканняў пацярпела дарога Ракаў - Івянец. На працягу 16 км ДРБУ-167 сваёй тэхнікай расцягвала дрэвы, вызваляла дарогу ад завалаў. Ліквідацыйныя работы праводзяць ПМК-65, лясгас, вайсковая часць. Будаўнічыя і пламатэрыялы раздалі людзям. Агульнымі намаганнямі аднаўлена 125 жылых дамоў.

*Аддзел інфармацыі.*

## Ураганы -- для Беларусі не рэдкасць

*Як піша газета "Беларускі рынак", начальнік гідраметцэнтра РБ Тамара Цярэшчанка паведаміла, што ўрагану, супастаўляльнага з цяперашнім па нанесенаму ўрону, ў нашай рэспубліцы на працягу 50 год не было.*

Аднак было б няправільна сцвярджаць, што для Беларусі ўраганы -- рэдкасць.

*Заканчэнне на 2-й стар.*



**Паэтаў розныя лёсы**

## "... і добрую славу народу"

*7 ліпеня спаўняецца 115 год з дня нараджэння Янкі Купалы.*

Яго творы дарэвалюцыйнага перыяду насілі ў пераважнай большасці нацыянальна-асветніцкі характар, а ўвосень 1919 года не толькі ў сваіх вершах, а і ў публіцыстычных артыкулах "Больш самачыннасці", "Беларускае войска", "Беларусі сцяг уваскрос!", "Моладзь ідзе", "Незалежная дзяржава і яе народы" яго турбуе пабудова новай суверэннай Беларусі.

Канцэптуальнае стаўленне да гэтай праблемы ён яскрава ўвасобіў у артыкуле "Незалежнасць", дзе выказаў, што "толькі дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу".

Святкаванне народзінаў песняра пройдзе 5 ліпеня а 14 гадзіне ў Вязынцы. Мяркуецца, што ў ім прымуць удзел вядомыя літаратары і артысты, якія дадуць святочны канцэрт.

*Алесь ЦАДКО.*

## Крыўда на сэрцы

*МЯДЗЕЛ. Сціплая магілка і драўляны крыж. Толькі надпіс ды фота нагадваюць, што тут пахаваны славуты беларускі паэт Максім Танк.*

За два гады няшмат хто прыходзіў сюды, нават у святы. Толькі мясцовыя. Таму крыўдна на сэрцы роднага брата паэта - Фёдара Скурко.

Пра людзей пакуль казаць рана. А вось помнік на магілку заказалі раённыя ўлады. Менавіта свае, мясцовыя, і аказваюць канкрэтную дапамогу па ўшанаванні памяці народнага паэта пасля яго смерці. З гэтай нагоды ў раённай "Нарачанскай зары" з'явіўся артыкул Аляксандра Быкава "Сум па народным паэце". Сумуюць землякі паэта таму, што небагатыя, каб зрабіць тут усё па-людску.

*Святлана САРОКА.*

**Навіны**

## Ні грошай, ні даведкі

*АСТРАВЕЦ. Амаль шэсцьдзесят чалавек з ліку беспрацоўных не атрымаюць дапамогу па беспрацоўі за апошні месяц.*

Такое рашэнне на днях прыняў раённы цэнтр занятасці, зыходзячы з таго, што гэтыя людзі не прадаставілі даведак аб адпрацаваных імі днях на грамадскіх работах у калгасах ці прадпрыемствах райцэнтра.

Атрымліваецца, як відаць, палка з дзвюма канцамі: работу знайсці практычна нельга, а адпрацаваць пэўную колькасць дзён чалавек павінен у любым выпадку.

*Аддзел інфармацыі.*

## "Птушыныя" вандроўкі

*МЯДЗЕЛ. 4 мільёны рублёў пералічыла раённая інспекцыя аховы прыроды Вузлянскай базавай школе.*

Каторы год школьнікі прапалваюць лесакультуры мясцовага лясніцтва, збіраюць шышкі, кормяць у лесе птушак. За гэта яны маюць і павагу, і грошы. Прычым апошнія выкарыстоўваюць на падарожжы. Цяпер вучні разам з дырэктарам Бярнардай Макоскай збіраюцца ў экскурсію па Гродзеншчыне. Аўтобус выдзяляе райсельэнерга.

*Альберт КУМІШЧА.*

## "Выпадковыя хлопцы"

*АШМЯНЫ. Міжраённы фестываль маладзёжных калектываў абяцае стаць традыцыйным - сёлета праводзіўся ў другі раз запар. У адрамантаваным Доме культуры 10 эстрадных калектываў з Ашмянаў, Астраўца, Смаргоні, а таксама асобныя выканаўцы дэманстравалі сваё майстэрства і адначасова аспрэчвалі тытул мацнейшага.*

Мясцовы гурт "Алекс і сыны" вызначыўся рок-кампазіцыяй, прысвечанай францысканскаму касцёлу, што знаходзіцца ў Ашмянах. Шмат існуе аб ім легенд і чутак - быццам, да прыкладу, наведваў яго Напалеон. Прыемна, што музыканты выкарыстоўваюць гісторыю, як крыніцу творчасці.

Прыязна гледачы паставіліся да мясцовых талентаў - выступленняў скрыпача Алега Дымана, пераможцы ў намінацыі вакал Марыны Варановіч (калектыў "Проста Марыя"), прыхільнікі эстраднай "папсы" - да гурта "СД".

Але сэрцы многіх паланілі "Выпадковыя хлопцы" са Смаргоні. Падчас іх выступлення ў дзяўчат з залы відавочна падвысіўся ўзровень адрэналіну ў крыві. Што было заўважана многімі.

*Аддзел інфармацыі.*

## Вы такое і не снілі

*АСТРАВЕЦ. Адметнасць апошніх дзён - адкрыццё новага рынку.*

Стары рынак, які называлі ў асяроддзі гандляроў "шанхаем", для падобных мэтаў не падыходзіў наогул. Практычна нельга было свабодна прайсці між гандлёвымі радамі, добра разгледзець і прымераць тую ці іншую рэч.

Размясціліся ў гандлёвых радах як прадаўцы прамысловых тавараў, так і харчовых. Радуе вока пакупнікоў рынак, але адначасова засмучае гандляроў, бо вымушаны яны плаціць за месца такія грошы, якія нават не снілі ў суседніх райцэнтрах.

*Ян ТАРАШКЕВІЧ.*

## Бульба

*АСТРАВЕЦ. Прыватны прадпрымальнік з Расіі наведаўся сюды, каб закупіць бульбы.*

Купляў яе ў прыватных асоб, а паколькі маштабы здзелкі аказаліся немалымі, то загружаць яе папрасіў мясцовых жыхароў. Аднаму з астраўчан плата за работу падалася малаватай, і ён "разгрузіў" кішэні курткі наймальніка на 13 мільёнаў зайчыкаў і 1,5 мільёна расійскіх рублёў. Праўда, міліцыя грошы гаспадару вярнула аператыўна.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Патроны

*АСТРАВЕЦ. Здаецца, вайны ў бліжэйшыя гады не прадбачыцца, але некаторыя ўсё ж прымаюць меры, каб быць напагатове.*

Нядаўна ў кватэры астраўчанкі К. супрацоўнікі міліцыі знайшлі 5 баявых патронаў калібру 5,45 мм, прыгодных для стральбы. Вядзецца следства, якое цікавіцца ўсімі абставінамі, але жанчыне вайна, відаць, не страшная.

*Маркел АНДРЭЙЧЫК.*

**Гасцёўня "РГ"**

## Амерыканская калега - у "РГ"

*У панядзелак у "Рэгіянальнай газеце" у гасцях была амерыканская журналістка, асістэнт выдаўца газеты The Palm Beach Post Віёла Гейнер, якая знаходзіцца ў Беларусі ў дзелавой паездцы.*

Журналісты "РГ" і іхняя калега са Злучаных Штатаў у сяброўскай гутарцы абмяняліся сваім досведам у журналістыцы, запланавалі сустрэчы ў далейшым.

Дарэчы, пані Віёла не сказала, што маладзечанскае піва нясмачнае.

*Мікола ГАЙДУК.*

**Адным абзацам**

Прэзідэнт быў верным сабе і наведаў адну з вёсак на Валожыншчыне, што пацярпела ад урагану. І хаця А. Лукашэнка гаварыў аб моцнай уладзе, уражанне складваецца адваротнае: у якой яшчэ краіне яе кіраўнік будзе вырашаць праблемы асобна ўзятага вясковага дома ці сям'і.

Радашковіцкая школа пачала адлік другога паўстагоддзя - адбыўся пяцьдзесят першы выпуск. Сцены школы пакінула 65 юнакоў і дзяўчат. Да атэстатаў сталасці яны атрымалі два залатыя, тры сярэбраныя медалі і 19 пахвальных лістоў.

Пяцьдзесят тры гады таму, 5 ліпеня 1944 года пасля чатырнаццацігадзіннага бою з гітлераўцамі быў вызвалены Маладзечна. У баях за горад вызначылася шмат людзей, а ўраджэнец вёскі Радзеўцы Д. Казакевіч, які скончыў вайну генералам, удастоены звання Героя Савецкага Саюза.

Купалле многія маладзечанцы сустрэнуць на маляўнічым беразе Ушы. 6 ліпеня а 20-й гадзіне пачнуцца інсцэніроўкі, гульні, танцы ля вогнішча, канцэртныя выступленні. Выступяць ансамбль песні і танца з Цюрлёў, "Беларусачка", дзіцячыя творчыя калектывы. Будуць працаваць гандлёвыя пункты.

Дваццаць дзевятага чэрвеня ў Радашковічах знойдзены труп мужчыны. Па папярэдніх дадзеных, чалавек быў засечаны і праляжаў каля пяці дзён.

**"Дарогі смерці"**

## Наша праўда

*Нядаўна з камандзіроўкі ў расійскія архівы вярнулася навуковы супрацоўнік Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея Вольга Коласава.*

Мэтай яе паездкі быў і пошук архіўных дакументаў, звязаных з лёсам этапіраваных вязняў турмы ў Вілейцы напачатку Вялікай Айчыннай вайны.

Аб вынішчэнні вязняў мы пісалі на працягу 1996-97 гадоў у матэрыяле "Дарогі смерці". Нашы публікацыі базіраваліся, у асноўным, на польскіх крыніцах. Пошук дакументаў у расійскіх архівах поўнасцю пацвердзіў дакладнасць звестак, апублікаваных у "Рэгіянальнай газеце". Былі канвоі палонных, былі вынішчэнні безабаронных вязняў.

*Аддзел інфармацыі.*

**Стыхія**

# Ураганы-- не рэдкасць

*Пачатак на 1-й стар.*

Як прыродная з'ява франтальныя шквалы ўзнікаюць звычайна ў спякотнае надвор'е іменна над кантынентальнымі тэрыторыямі. Ураганы са шквалістым ветрам, які дасягае хуткасці 30 м/с і перыядычна мяняе свой кірунак, могуць узнікаць, як правіла, 1-2 разы ў год летам або позняй вясной, але звычайна яны носяць лакальны характар і не прыводзяць да масавых разбурэнняў і чалавечых ахвяр. Апошні з такіх лакальных ураганаў у Беларусі быў нядаўна -- у ноч на 9 мая.

Ураган, пра які мы паведамлялі ў мінулым нумары, зарадзіўся 23 чэрвеня над Львоўскай вобласцю прыкладна ў сярэдзіне дня. Ён пранёсся над Валынскай вобласцю (у выніку там загінулі 8 чалавек) і з хуткасцю 160 км/гадз. рушыў да тэрыторыі Беларусі, дзе бушаваў з 18.45 да 21.00. Па паведамленнях СМІ, у Беларусі колькасць загінуўшых склала 5 чалавек. Ніводная крыніца (акрамя "РГ") не паведаміла аб тым, што ўраган прайшоўся ў некаторых месцах (вёска Малыя Кашэўнікі на Маладзечаншчыне) двойчы за суткі.

Гідраметцэнтр прагназуе, што ў гэтыя дні над Беларуссю зноў адбудзецца буйное сутыкненне цёплай вільготнай і халоднай сухой паветраных плыняў, што можа выліцца або ў моцную навальніцу, або ўраган.

*Аддзел інфармацыі.*

**Чытач-газета**

# Маэстра і яго "дзеці"

***ВІЛЕЙКА. Я з радасцю іду на работу — штодзень сустракаюся з дзецьмі. І яшчэ таму, што побач з намі, калектывам Цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей, у невялікім будынку вось ужо 5 гадоў займаецца ўзорны духавы аркестр Вілейскай школы мастацтваў.***

Гэты аркестр — калектыў аднадумцаў, сяброў. Для 50 юных музыкантаў сама музыка — жыццё. Творчую атмасферу, традыцыі падтрымліваюць выкладчыкі Уладзімір Старадуб, Аксана Зюбіна, Сяргей Рамаяоўскі, Уладзімір Саўчыц, Валеры Чэчулін... Менавіта яны разам з выкладчыкамі тэорыі музыкі навучылі дзяцей сур'ёзна ставіцца да жыцця і вучобы.

Узорны духавы аркестр — лаўрэат абласных, рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў. Выступаў з канцэртамі ў Польшчы. І, безумоўна, вялікая заслуга ў гэтым кіраўніка калектыва Фёдара Гура. Усе ставяцца да яго з павагай і завуць не інакш, як "наш маэстра". Фёдар Міхайлавіч — чалавек слова, які ўлюбёны ў сваю работу. І ўвесь свой талент і веды, душу і сэрца аддае дзецям.

На апошнім канцэрце, як звычайна і на іншых, людзі рознага ўзросту і прафесій цёпла прымалі выступленне музыкантаў.

*Таццяна ЗАХАРЫЧ,*
*дырэктар Цэнтра*
*эстэтычнага выхавання*

**Хобі**

# Насенне з прыпіскай

***МЯДЗЕЛ. Няхай не крыўдуюць гаспадыні Нарачы, але найбольш маляўнічы і дагледжаны кветнік у Эльвіры Лось - інспектара па кадрах санаторыя "Нарач". Адных толькі вяргінь 15 сартоў. Цюльпаны розных колераў і адценняў. Вабяць сваім хараством хрызантэмы. Набярэцца больш за паўсотню назваў розных кветкавых раслін, дэкаратыўных і пладовых дрэў, кустарнікаў.***

У гэтай справе дапамагаюць жанчыне муж, дочкі. Карыстаюцца парадамі, змешчанымі ў часопісах "Гаспадар", "Прысядзібная гаспадарка". Прачытала аднойчы, што ёсць невядомыя ёй раней лекавыя кветкі, расліны, дык напісала ў часопіс, каб уладальнікі падзяліліся насеннем. Атрымала лісты з насеннем і прыпіску, што робяць гэта бескарысліва, па загадзе сумлення.

Сама Эльвіра Лось таксама дасылала ў Маладзечна, Магілёў бандэролі з насеннем рэдкіх кветак. Выпісала за пэўную плату з Батанічнага саду Акадэміі навук у Мінску насенне кветак, саджанцы. А калі наведвае кірмашы ў Маладзечне, Паставах, дык шукае гандлёвыя рады, дзе можна набыць для сябе новы сорт кветак.

Сям'я Лось жыве ў гэтым доміку з 1991 года.Перасяліўшыся з прыватнай кватэры, гаспадары адразу прыступілі да добраўпарадкавання тэрыторыі вакол жылля. Нанасілі чарназёму, спланавалі газоны, грады. Пасадзілі і пладовыя дрэўцы. Тут набірае сілы яблыня-сікорка, растуць нізкарослыя вішанькі (в'етнамкі), з недалёкага лесу перасяліліся ландышы, па сцяне ўецца плюшч.

Да сапраўднага кветкалюба звяртаюцца суседзі за парадамі, некаторыя просяць кветак для сямейных урачыстасцяў. Яна нікому не адмаўляе.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

**Падзякі**

Хачу выказаць агромністую сардэчную падзяку дырэктару ВВА Беларускага таварыства па зроку Сяргею Мікалаевічу Мінкоўскаму за яго чулае, добрае сэрца, бо ён даў работу маёй сям'і. Жадаю моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, поспехаў у працы яму, а таксама намесніку дырэктара, начальніку і намесніку начальніка надомнага цэха. Вялікі дзякуй работнікам аддзела кадраў, бухгалтэрыі, майстрам. У прыватнасці, Галіне Андрэеўне Колесавай, усім чулым людзям гэтага прадпрыемства. Дай вам бог здароўя, усіх зямных даброт.

*З павагай*
*Аляксандр Герасіменка*
*і сям'я.*

**Прыадкрыем тайну**

# Нашы мафіёзі не горшыя за расійскіх. Але і КДБ не саступіць ФСБ.

***ВІЛЕЙКА. Днямі адбылася сустрэча прадстаўнікоў прэс-цэнтра КДБ Беларусі з журналістамі мясцовых і рэспубліканскіх МАС-МЕДЫЯ, арганізаваная пры ўдзеле кіраўніка КДБ па Мядзелу і Вілейцы Іванам Шышкаўцом.***

Кіраўнік прэс-цэнтра Ґенадзь Сінякоў, супрацоўнікі прэсавай службы расказалі аб сённяшняй структуры органаў дзяржбяспекі, аб вяртанні гістарычных і мастацкіх каштоўнасцяў дзяржаве, аб барацьбе з арганізаванай злачыннасцю. Журналістам быў прадэманстраваны відэафільм з аператыўнымі здымкамі службаў КДБ.

Адказваючы на пытанні журналістаў, Іван Шышкавец сказаў, што на падведамаснай яму тэрыторыі - Вілейка, Мядзельскі і Вілейскі раёны - "пытанні разведкі і контрразведкі прысутнічаюць". Пры ўдзеле работнікаў КДБ тут раскрытыя або раскрываюцца эканамічныя злачынствы. Напрыклад, у фірмы "Белстар" не атрымалася абмахляваць завод "Зеніт" на 1 мільярд рублёў. Грамадзяніну Арменіі не ўдалося атрымаць па фальшывых дакументах паўмільярдны крэдыт. Была спыненая афера, ацэненая ў 4 мільярды рублёў, якія "перапампоўваліся" праз "Тэхнабанк". Мясцовыя кадэбісты вядуць барацьбу і з арганізаванай злачыннасцю.

Аказваецца, дамарослыя мафіёзі нічым не горшыя за расійскіх. Хаця, як прызналіся работнікі раней закрытага для журналістаў камітэта дзяржаўнай бяспекі, ганарыцца тут няма чым.

Цікава, што заканчэнне серыі тэрарыстычных актаў у Маскве (памятаеце ўзрывы ў тралейбусах?) супала з затрыманнем беларускімі спецслужбамі ў Мінску прадаўцоў (а можа, і не толькі прадаўцоў) самаробных, аднак высокатэхналагічных выбуховых прыстасаванняў. Гэтая аперацыя, як і некаторыя іншыя, праведзена была ў кантакце з Федэральнай службай бяспекі Расіі.

*Мікола ГАЙДУК.*

**Сёе-тое аб сродках перамяшчэння**

# Як пойдзеш пешшу, то дакладна патрапіш

## Таксі

***МАЛАДЗЕЧНА.*** На прывакзальнай плошчы стаянка таксі ніколі не бывае пустая. А вось з пасажырамі тут складана. Як правіла, аўтамабілі ад кааператываў "Лада" і "Камфорт" гадзінамі не могуць дачакацца кліента. Каб разагнаць маркоту, вадзіцелі гуляюць у карты; а пасажыры з цяжкімі чамаданамі ды сумкамі спяшаюцца паўз стаянку на аўтобусны прыпынак. Не кожнаму сёння па кішэні іхнія паслугі. Паездка на таксі па горадзе абыдзецца не менш за 25-30 тысяч рублёў.

— Пасажыр збяднеў, багата не заробіш,— скардзяцца таксісты-прадпрымальнікі.

Стратнасць транспартных паслуг пацвярджаюць і работнікі АП №4.

— Брыгада таксістаў аўтапарка працуе апошнія гады з вялікімі стратамі. Паліва, электраэнергія і тэхнічнае абслугоўванне аўтамабіляў ужо не акупляюцца перавозкамі пасажыраў,— гаворыць намеснік дырэктара гаспадаркі А. Садоўскі.

Новым рашэннем адміністрацыі стаў перавод усёй брыгады таксістаў на ўмовы арэнды. Па дагаворы з 1 сакавіка вадзіцелі таксаматораў забяспечваюць рамонт і тэхабслугоўванне транспарту за свой кошт і плацяць гаспадарцы за арэнду аўтамабіля (у залежнасці ад тэхнічнага стану). Аўтапарк дапамог ім аформіцца прыватнымі прадпрымальнікамі. Гаспадарка больш не нясе выдаткі (практычнае садзеянне аказваецца) на тэхнічнае абслугоўванне аўтамабіляў, значна меншыя сталі расходы на электраэнергію і г. д. Яны леглі на вадзіцеляў-арандатараў. Некаторых ад пачатку гэта палохала, так сама як і сацыяльны бок прадпрымальніцтва, калі той жа лісток непрацаздольнасці ніхто не аплаціць. Псіхалогію спажыўца пераадолець цяжка, бо вядома ж, да прыкладу, што можна займець "па блаце" бальнічны, які прадпрыемства вымушана будзе аплаціць, а самому гэтыя дні правесці "на градках" ці яшчэ дзе. Абы не на рабоце.

Прадугледжваецца права вадзіцеля на пакупку аўтамабіля па яго астаткавай вартасці - не пазней як праз год-два. І калі сёння кошт старэнькай "Волги" вагаецца ў межах 9-12-18 мільёнаў, то праз год гэта будзе складаць усяго 2-3. Некаторыя нават папрадавалі свае "Жыгулі" - навошта дзве машыны ў гаспадарцы?

## Аўтобусы

Праблемы аўтапарка №4 не толькі і не столькі ў стратнасці работы таксаматорнай брыгады. Прыйшлі ў непрыгоднасць аўтобусы гарадскіх і прыгарадных маршрутаў. Яны часта ламаюцца на дарогах, а запчастак, гаруча-змазачных матэрыялаў і грошай на рамонт няма. Тых даходаў, што ўжо больш за год прыносяць кандуктары распродажам білетаў у гарадскіх аўтобусах, нестае для арганізацыі работы грамадскага транспарту. За сродкі галіновага міністэрства ў апошнія 7 год аўтапаркам куплены ўсяго адзін новы аўтобус. Дзесятак населеных пунктаў Маладзечаншчыны наогул не ахоплены аўтобусным рухам.

Гарадскія маршруты прыносяць болей стратаў менавіта з-за частых рамонтаў. Калі ж для гэтага пастаўляюцца бракаваная рызіна, рухавікі, то гаварыць ні пра што не даводзіцца.

Агульны ж фон, здаецца, неблагі: ідзе няўхільны рост выручкі, 14 штатных і 10 няштатных кантралёраў штомесяц штрафуюць да 1000 чалавек (з кожнага, нагадаю, цяпер бяруць па 75 тысяч), павялічыўся да 2,5 тысяч кошт праезду ў аўтобусах. У некалькі разоў павялічыўся продаж праязных білетаў - да 3-3,5 тысяч.

## Пасажыры

Але агульнае становішча з гарадскімі перавозкамі як найбольш поўна характарызуе новы, 6-ы мікрараён. З пускам туды маршрута №11 тамтэйшыя жыхары былі задаволеныя, бо хадзілі аўтобусы дакладна па раскладзе, без зрываў рэйсаў. Цяпер сюды пусцілі яшчэ і маршрут №10, але па выхадных знялі "адзінаццатку". Натуральна, не ад добрага жыцця, але тым жа школьнікам дабрацца дадому пасля суботніх заняткаў выліваецца ў амаль невырашальную праблему. Пачаліся і зрывы рэйсаў, а апраўданні вадзіцеляў на тэхнічныя няспраўнасці нікога, падобна, не хвалююць.

Не кажу нават пра тое, што мікрараён (у асноўным, дзевяціпавярхоўкі!) імкліва разрастаецца і двух аўтобусаў для яго відавочна замала. У цэнтры ж, дзе ўсё пад рукой, круцяцца аўтобусы амаль усіх гарадскіх маршрутаў.

Згадваюць жыхары мікраараёна і той час, калі тут стаяў лес ды вёска, а аўтобусы красненскага напрамку хадзілі менавіта праз будучую новабудоўлю. На час рамонту маста праз чыгунку іх пусцілі па старой дарозе ля ЗПМ, аднавіць жа рух па ранейшым маршруце "забыліся". Цяпер шчаслівыя навасёлы пры спробе заехаць у Краснае ці Радашковічы мусяць з гадзіну дабірацца да вакзала, замест таго, каб спакойна пачакаць той аўтобус непадалёк ад канцавога прыпынку "дзесяткі" і "адзінаццаткі".

## Льготнікі

Расце, дарэчы, выручка і на прыгарадных маршрутах. Асабліва рэнтабельны напрамак на Вязынь. Але, як у горадзе ды на чыгунцы, у прыгарадзе зашмат льготнікаў. Паўтара дзесяткі катэгорый пасажыраў маюць права на бясплатны (у рэдкім выпадку - 50%) праезд.

З 51 тысячы жыхароў раёна - 16 тысяч пенсіянераў, 7 тысяч школьнікаў, прыкладна каля 1 тысячы астатніх ільготнікаў. У базарны дзень з вёскі і назад з кожных 25 пасажыраў білеты, такім чынам, маюць усяго 4-5. А на раёне 28 маршрутаў, якія ахопліваюць 96 населеных пунктаў.

## Бюджэт

Гарадскія паездкі аўтапарк на 78% фінансуе сам, прыгарадныя - на 75%. Апошнім часам тут выйшлі практычна на самакупнасць. Але навідавоку парадаксальная заканамернасць: некалі гэтыя 70-80% аплачваў бюджэт, цяпер датацый патрабуецца значна менш, а аб развіцці, замене аўтобусаў, тым не менш, і гаварыць не даводзіцца. Закон сацыялізму: працуй лепей - дапаможам меней. Нават на льготнікаў дзяржава датацыі не выдзяляе. Мы плацім падаткі, каб - у тым ліку - рэгулярна дабірацца на работу, у госці і інш. на аўтобусах (таксама не за бясплатна, дарэчы). Клопату пра нас толькі не адчуваем.

*Язэп СЕМЯНОВІЧ.*

